№ 1. Год II—1913. ~~Снежень~~ (Январ). 10-ая кніжка.




# ПЕРШЫ БЕЛАРСУКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

Падпісная цэна на 1 год **1** р. **20** кап. на 6 месяцоу **60** кап., за перамену адрэсу **20** кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Завальная 7.**

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсц у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам **40** к., за тэкстам **20** к. За разсылку рэклям пры месячніку вагай да 2 лотоу **7** руб. ад тысячы

**Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

Годъ II—1913. Студзень (Январ). 10-я кніжка.

САХА ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

# Ад Рэдакцііі „Сахі".

Рэдакцiя просiць сваiх падпiсчыкоў i чытачоў выбачыць ей, што январская кнiжка спазьнiлася. Гэта вышла ад таго, што сельска-гаспадарскi кiроўнiк „Сахi"—вучоны аграном Э. Сакалоўскi высылаецца адмiнiстрацiўна у ссылку, дзеля гэтага цяг работ рэдакцii прытрымаўся. Але мы цяпер вядзем перэгаворы з некаторымi маладымi вучонымi сiламi, i скора адзiн з iх будзе науковым кiраўнiком „Сахi".

„Саха" памалу развiваецца, адразу нiчога невырастаець. С кожнай кнiжкай прыбаўляецца супрацонiкоў гаспадароў, практыкоў i вучоных. Мы паставiлi сабе за мэту даваць толькi такiе рады, каторые ужо выпрактыкаваны, бо цьвёрда помнiм, што сельская гаспадарка ня любiць рызыкi. Тым больш патрэба зьбiраць усё выпрактыкаванае у асобных гаспадарках, што лепшые спосабы вядзеньня гаспадаркi у Беларусi ешчэ ня выраблены, край наш увесь ешчэ, як бы вялiзнае пробнае поле. I вось праца сельска-гаспадарскай газэты будзе у тым, каб зьбiраць тое. што выраблена гаспадарскiм розумам i пробай нашых лепшых земляробоў. Зварачываемся да усiх гаспадароў дробных, сярэднiх i большых, каб яны на страніцах „Сахi" дзялiлiся з усiм краем са ўсiм, што у iх ёсць цiкавага у гаспадарцы.

Бо i у евангелii гаворыцца: „калi ты маеш сьвятло, то ня трэба яго пакрываць пасудзiнай, нiхай яно сьвецiць усiм людзям".

Уступаючы у другi год выданьня, рэдакцiя моцна верыць у добрую будучыну нашаго з веку жывучаго с сахi краю. Усё нашае багацьце — гэта нiвы. Нiма мацней чэлавека, як араты i касец, нiма вышэй чына—як земляроб!

Будзем жэ разам с сваiмi супрацоўнiкамi i чытачамi працаваць над пашырэньнем навукi i практыкi сельскай гаспадаркi.

# Аб насеньні.

Наблiжаецца весна i гаспадары павiнны думаць загадзя аб тым, каб дастаць добраго насеньня на пасеў. Ад гатунку насеньня дужа многа залежыць тое, якi ураджай будзем сабiраць у восень. Дагэтуль у нас на гэту справу зьверталi дужа малую увагу, асаблiва у дробных гаспадарках. Зазвычай рабiлося так: з году у год сеялося тое самае насеньне, ды ешчэ не саўсiм добра прачышчанае. А тымчасам насеньне, калi за iм не глядзець, мала-памалу пачынае выраджаецца, драбнеець i што раз меншы дае ураджай. Дрэнна прачышчэнае насеньне робiць вялiкую шкоду на нiве, бо не патрэбная трава, пасеяная разам з зярнём, ад'едае корм у расьлiн, забiрае паветрэ i сонцэ iм. Дзеля гэтаго, высеваючы насеньне, кожны гаспадар, павiнен пiльнавацца, каб у яго насеньнi ня было зела, павiнен добра ачышчаць яго перад пасевам i сеяць толькi такое насеньне, каторае дае найбольш усхожых зернят, ды само па сабе на выгляд гладкое, буйнае. Буйнае насеньне, як паказала навука i практыка, заўсёды бывае багацейшым запасным кормам, тым матчыным малаком, каторым кормiцца расточак, у той час калi ён ешчэ ня здужае кормiцца сокамi з зямлi. Кожнае насеньне мае у сабе зачатак усей расьлiны з лiсьцямi, сьцiблам i карэньнямi. Буйные насеньнi маюць у сабе зачатак крэпкiх расьлiн, маюць большы запас матчынаго малака i лепей кормяць маладую расьлiнку · расточак i гэта маладая расьлiнка дзеля гэтаго мае больш сiлы каб перэмагчы розные трудные варункi, якiе могуць здарыцца у жыцьцi расьлiны.

Адзiн нямецкi вучоны зрабiў гэткую пробу: ён узяў i пасеяў у адзiнакавых варунках, адзiнакаваго гатунку i на адзiнавай зямлi па 100 зернят гароху, — дробных i буйных

| | Важылi | Далi расткоў | Ураджай на вагу |
|---|---|---|---|
| Дробные . . . | 160 гр. | 423 | 998 гр. |
| Буйные . . . | 273 гр. | 480 | 1814 гр. |

Апрача гэтаго буйные зерняты выдалi 96 зёран на сто годных да пасеву, а дробные—86 зёрноў.

Iншые кажуць, што ня столькi трэба глядзець на буйнасць насеньня сколькi на сцiсласць ядра, але гэта, як паказала практыка шмат якiх станцей для ацэны насеньня, зазвычай iдзе ў пары. Буйнае, сiльнае насеньне бывае разам i больш сьцiслым.

Затое вялiкую вагу мае гатунак насеньня. Калiсь мы пiсалi аб тым як робяцца гатункi — сэлекцiя (падбор) насеньня. I с таго нашы чытачы ведаюць сколькi трэба палажыць працы

на тое, каб выве ьці добрае да пасеву зярнё. Падбор, або, як яго завуць па вучонаму, сэлекція расьлін, апіраецца на тым праве прыроды, каторае кажэцца у нашай прыказцы гэткімі славамі: „якое дрэва — такі клін, які бацька — такі сын". Гэта значэ, што характар папярэдніх пакаленьнёў перэдаецца патомкам. На тое, каб вывясьці новы гатунак якой збажыны прыгоднай да пасеву у якім колечы краю, бо ня ўсюды адзінаковые варункі, бяруць мейсцовае найбольш падхадзячае да мейсцовых кліматычных варункоў насеньне, сеюць і выбіраюць калівы найсільнейшые, с крэпкім сьціблам, с поўным і буйным коласам, і с тых каліў, каторые падходзяць да ўсіх варункоў, якіе вымагае гаспадар ад зерняці, сабіраюць насеньне. А на другі год, тое сабранае насеньне ізноў сеюць і ізноў с паміж каліў выбіраюць толькі найбольш падхадзячые і т. д. пакуль ня дойдуць да таго, чаго хацелі ад насеньня. У прошлым дзевятым нумэры „Сахі" мы друкавалі стацьцю, пад загалоўкам: „Што мне даў Сельска-гаспадарскі Кружок", у каторай, адзін гаспадар расказывае, як ён, пасеяўшы 10 пудоў пэткускаго заводу жыта, у першым гаду меў чыстаго даходу больш на 111 р. 50 к. проці таго, які ураджай меў с свайго звычайнаго жыта. З гэтаго відаць, што гатунак насеньня, якім атсеваем поле, мае вялікае значэньне на ураджай. Не дармо сказаў адзін вучоны аграном, што — „добрае насеньне — гэта палав на навозу".

У нашай старонцы на падбор насеньня, дагэтуль мала зьверталі увагі. Селяне сеялі сваё вырадзіўшаеся насеньне, а вырадзілося яно праз тое, што ніколі не рабілі падбору, а высевалі такое, якое урадзіло папярэдняго году і то не найлепшае зярнё, а якое здарылося. Вялікіе двары, дзе лепей пастаўлена гаспадарка, праўда, апошнімі часамі пачалі выпісываць розные гатункі збожа з Расеі, с Польшчы, а найбольш з заграніцы. Але беда то у тым, што усе гэты гатункі выведзены саўсім у другіх кліматычных варунках, ды на другой зямлі і рэдка каторае з гэтых модных гатункоў аказалося прыгодным для нашаго краю. Наагул, дробным гаспадаром трэба быць дужа асьцярожнымі, купляючы насеньне на пасеў, бо часта бывае, што можна купіць такое насеньне, каторае саўсім не прыгодна да нашаго клімату. Купляць на пасеў насеньне можна, або у суседа, у дварэ, засьценку, ці вёсцы, або у Сельска-гаспадарскіх таварыствах.

Дзеля гэтаго найлепей было-б, каб нашы гаспадары самі выводзілі са свайго насеньня новые ураджайные гатункі збожа. Шмат па якіх гаспадарках заграніцай гэтак і робяць. Калі ужо ніва дасьпее, гаспадар ідзе на поле і з найлепшых каліў, найвышэйшых, с поўным цяжкім і доўгім коласам састрыгае каласы у торбу, абмалачывае іх, адбірае драбнейшые зерняткі і толькі самымі буйнымі засевае сваю ніўку. Ведама вялікіе гаспадаркі рабіць гэтаго ня могуць, бо гэта ім абышлося-б лішне дорага, але малые, дзе ёсць свае рабочые рукі, могуць. На Сельска-гаспадарскай выстаўцы у Чыкаго (Амэрыка) у 1900

гаду былі калівы жыта, каторые, дзякуючы доўгаму і акуратнаму падбору, з аднаго зерняці выдалі да 70 каласоў і больш 2,000 зернят. Праўда, гэта былі калівы выведзеные у дужа добрых варунках і пасеяные на поле, яны-бы ня выдалі гэтаго, а можэ і саўсім-бы прапалі, але гэта паказывае, да якіх уражаёў можна дайсьці, калі з году на год рабіць акуратны падбор насеньня.

Купляючы насеньне, трэба зьвертаць так-жэ увагу на тое, да якой яно зямлі прывыкло. Калі мы возьмем насеньне з баравой зямлі і пасеем яго на гліне. ці са жвіроў на сіпак, то ведама, гэту перамену расьліна павінна перэхварэць, як перэхварэе і чэлавек, калі замест звычайнай стравы, да якой ён прывык, пачаць яго карміць непрывычнай стравай.

С 14 і да 19 лютаго у Вільні будзе выстаўка рознаго сельска-гаспадарскаго насеньня і дзеля гэтаго мы пакульшто стрымаемся і ня будзем раіць гатункоў насеньня для пасеву. На выстаўцы, разгледзіўшыся і распытаўшыся, мы напішэм гэта у чародным нумэры „Сахі“.

**Лемеш.**

---

# Жыто.

Уся падмога і апора беларускаго хлебароба, як усім ведама, жыто. Спосабы, як лепш трэба сеяць гэту збажыну, мы тут разбіраць ня будзем, але скажэм толькі, што не раз у восень цешыцца наш хлебароб, гледзючы на сваю рунь, калі яна, густа разаслаўшыся, пакрые зялёным пекным дываном усю яго зямліцу. Цешыцца хлебароб у восень, але як надойдзе весна, пачнуць таяць сьнягі; у дзень пачне хлюпчэць, а ў ночы трашчэць, пачнуць гуляць вятры,—дзівіцца наш селянін, гледзючы, як у вачах яго на зялёным пекным полі што раз болей і шырэй паказываюцца цемнаватые с пажоўкшымі лісточкамі лаціны.

„Вецер павыбіваў — прапало жыццо“, жаліцца гаспадар. Але тут не так вецер віноват, колькі віноваты зусім іншые прычыны. Разгледзім—жэ іх па чарадзе.

Бывае, што гаспадар спазніцца з мешаньнем і, не чэкаючы пакуль земля адлежыцца, асядзе, сыпе зярнё у свежую ральлю. Тады можэ стацца вось што.

Жыто, як ведамо, усходзе скора; вось высыпіцца яно з зямліцы густа, роўна, пекнымі пёркамі, тым часам земля пачынае аседаць; аседаць доўга, паволі. Вось тут-то гэта аседаючая земля шмат рвець і глуміць дэлікатных, тоненькіх, быццам валаскі, карэньчыкаў. Апрача таго, маладые, еще добра неумацаваўшыеся гэтые карэньчыкі, калі земля асядзе, злежыцца, астаюцца на вярху,—абгаліваюцца і тады рунь ня толь-

кі ня можэ ўжо граніцца, але, разумеецца, пачынае жаўцець, а не мала і зусім прападае.

Другая прычына, чаму не раз бывае, што зразу пекная рунь с часам марнее, — гэта няўмелае лешаньне.

Найбольш с паміж нашых хлебаробоў лешаць жыто толькі дзеля таго, што так рабілі іх бацькі і дзяды. Лешаць яны не зважаючы ні на грунт, ні на спады, а вось толькі так, як здаўна заведзяны на іх палетках загоны. Ад гэткаго лешаньня ня толькі не спадзевацца карысці, а нават бываюць і шкоды.

Першая шкода будзе ўжо такая, што безпатрэбна лешучы, выкідаем на бакі пасеянае зярнё і баразна будзе пустая. Калі злажыць барозны з усяго поля разам, то выйдзе не малы кавалак пустой зямлі, каторы прападае дарма.

Другая шкода: калі палешыць жыто не па спаду, то вада трымаючыся праз даўжэйшы час ў адным якім колечы мейсцы баразны, падмачывае усходы і губіць іх.

Урэшце трэйцяя шкода: калі бяз толку палешыць, то вада, не праходзе у грунт скрозь роўна, і будзе запасу вільгаці каля баразён болей, а пад сярэдзіну загона менш і тады усход і узрост жыта будзе ня роўны.

Вось, дзеля гэтых усіх прычын ляшыць жыто прыходзіцца толькі там, дзе гэтага вымагае канешная патрэба. Прымерам: на цяжкіх роўных грунтах, дзе с самой натуры німа спаду; на маклякох; на сіпакох і падзольлі, асабліва там, дзе пад верхнім слоем зямлі, неглыбока ляжыць слой зямлі цьвердай, каторы не прапушчае у глыб вады; на іншых палетках, дзе і ёсць спад, бываюць навалкі зямлі быццам уціснутые у глыб, запаўшые, скуль ніякім спосабам нельга спусьціць вады; вось гэты самы кавалак трэба ляшыць глыбока і ў вузкіе загончыкі. Адным словам, ляшыць, як ужо было сказана, толькі с канешнай патрэбы, і то ня пільнуючы загонаў, а добра угледаючыся дзе лепшы будзе спад, не зважаючы ці лешаньне выпадзе ў доўж самых загоноў, ці як іначэй.

„Руні ў аруд ня сыпяць“, кажэ наша прыказка; і гэта праўда. Калі шкодзяць тые прычыны, а каторых мы ўжо казалі, то ня менш, а бадай і больш шкоды робе сама весна, нават тады, калі ўся работа зроблена акуратна: дадзены гной, добра прырыхтавана земля, зярнё пасеяна ў пару і т. д. Прычына вось якая.

На вясну, — а як у нас бывае — ўжо пад канец лютаго, надворье робіцца вельмі зьменнае: то сьнег, то дождж; у ночы —мароз, а у дзень—прыгрэвае сонцэ, ажно вада ляціць. Тады на кавалках зямлі, дзе вецер пазрываў сьнег,—робяцца праталіны. Лісточкі гэтак абголяной руні у цёплы соўнешны дзень пачынаюць кратацца да жыцьця; але толькі лісточкі, бо карэньчыкі седзяць ешчэ у халодным зьмерзлым грунце. Вось тут уся беда і пачынаецца: аджыўшые ад цепла лісточкі вымагаюць падмогі, вільгаці ад сваіх каренчыкоў, а тые даць гэтаго ім ня могуць. І вось зялёная рунь пачынае што раз болей жаўцець і гіне цэлымі праталінамі. Але гіне не ад марозу, а ад недахвату

вільгаці. Значыцца *ня вымерзае, а высыхае.* Ці ёсць — жэ на гэта якая колечы рада? А рада такая, што трэба шукаць такіх гатункоў жыта, каторых рунь на вясну нават пад праменямі сонца ня скора б аджывала.

Аграномы, робячы над гэтым пробы, перэканаліся, што найпазьней аджываюць поўночные гатункі жыта. С паміж іх найлепшымі для нашаго краю лічаць Іванаўскае і Пэткускае жыта. Найгоршым-жэ, бо найбольш высыхае — Прабштэйнскае.

Словам сказаць, зьменяючы насеннае жыта (а зьменяць яко час - ад часу канешна трэба) трэба заўсёды лепш браць с халаднейшых і горшых на зямлю старон, чым с цяплейшых. Адзін, другі год удачы, ці неўдачы ешчэ нам нічога не пакажэ і не навучэ; нам трэба канешна шырыць думкі і дабівацца дзе толькі можна пазакладаць пробные палеткі, бо на іх, і толькі на іх-будзе для нас праўдзівая і карыстная навука.

**Хлебароб.**

---

# С практыкі садаводаў.

Не раз нашым гаспадаром — садаводам хіба прыходзіла ў галаву думка: чаму нашые шчэпляные фруктовые дрэвы ня жывуць гэтак доўга і не дарастаюць да гэткай велічы, як іхніе дзікіе сестры; калі-ж часам і дагледзім дзе якое, дык толькі у старым дзядоўскім садзе? Доўга вучоные людзі думалі аб гэтым і вялі спрэчкі паміж сабой, шукаючы прычын. Адны казалі, што такіе вялікіе дрэвы, каторые мы бачым па садох нашых дзядоў узрасталі ў лепшых кліматычных варунках, чым цяперашніе нашы. Хоць, праўду кажучы, прыдаваць гэтаму большае якое колечы значэньне нельга, бо калі заглянем у даўнейшые запіскі аб пагодзе, ці клімаце, то перэканаемся, што ніякай значнай розніцы с цяперашнім часам німа. Іншые—казалі, што гэта зрабілі хваробы і шкоднікі цяперашніх садоў. На гэта зноў ёсць атказ: і хваробы, і шкоднікі такіе самые былі і даўней.

Але вось знайшоўся ў Амэрыцы адзін садавод - практык, каторы праз доўгі час, не ўдаючыся ў пустые спрэчкі, ціханька працаваў і ўжо перэканаўшыся на сваей практыцы, выказаў сваe думкі і рады ў гэтай важнай справі.

Гэты амэрыканскі садавод, па прозьвішчу Штрынгфэллё, аддрукаваў сваю кніжку ешчэ ў 1896 гаду; нарабіла яна тады вялікаго гоману паміж усіх садаводаў, бо ўсе іх новые спосабы, як садзіць, абрэзаць і дагледаць дрэвы—Штрыгфэллё зганіў, даводзячы, што даўней тые дрэвы дзеля таго так разраcталіся, што былі яны або самасейкамі, або сумысьля сеялі зернятамі проста на назначэнае мейсцэ і тамжэ, не перэсаджываючы, іх шчапілі. А калі здаралося перасаджываць дрэўцы,

далей кажэ Штрынгфэллё, то бралі дзеля гэтаго прышчэпы—аднагодкі і, раз пасадзіўшы, давалі яму ў росьце поўную свабоду, не абрэзаючы ніякіх галін і не калечучы дрэў, як гэта цяпер найчасьцей робяць нашые дамарослые садаводы.

Сваю сыстэму амэрыканскі садавод выкладае так.

Узяўшы вясной дрэўцэ са школкі леташняго прышчэпу, зрэзаюць галінку нізка, пакідаючы ўсяго 3—4 вочкі; с карэнямі-ж трэба рабіць зусім іначэй, чым гэта рабілі і робяць цяперашніе агароднікі: глаўны корэнь, з яго пабочнымі дробнымі карэньчыкамі, каторы ідзе ў ніз, адрэзаюць, пакідаючы ўсяго каля вершка ніжэй, чым пачынаюцца пабочные кареньчыкі, таўсьцейшые ад гусінаго пёрка. А цяпер і ўсе пабочные карэньчыкі адрэзаюцца так сама каротка—каля вершка—ад глаўнаго корня; трэба толькі пільнавацца, каб зрэзы былі гладкіе і роўные, а не наўскос. Вось дрэўца і гатова. Ямы для такіх прышчэпкаў вялікай капаць ня трэба: поўаршына укруг і столькі-ж у глыб; у гэткую ямку падсыпаць трэба добра гнойнай зямлі, зважаючы аднак, каб сьвежаго гною ня было; пасадзіўшы дрэўцэ трэба яго с пачатку дагледаць і падліваць; з вочак-жэ выбіраюць толькі адно—крапчэйшае і пушчаюць яго расьці ў моцную галінку; іншые гучкі—зрэзаюць. Калі толькі галінка вырасьце на аршыны поўтара—ў позную восень падрэзаюць яе на карону, а пасьля ўжо—у другіе годы вырэзаюць толькі сухое, ці зламанае гальлё, або такіе галінкі. каторые паміж сабой крыжуюцца т. е. труцца адна аб другую. Зямлю каля дрэвак, Штрынгфэллё кратаць не рае, бо, перакопываючы яе, будзем глуміць карэньні, каторые даюць сокі для фруктоў, а праз гэта дрэвы ня будуць добра радзіць. Траву пад дрэвамі касіць, а зямлю ўвокал дрэва паліваць гнаёўкай, або пасываць куплёнымі парашкамі, стараючыся патрапіць зрабіць гэту работу перад самым дажджом.

Каму-ж прыйшлося-б перэсаджываць дрэўцы 4 — 5-ці гадавые, то карэньні яго так сама трэба абрэзаць каротка, але тады і галіны на дрэўцы трэба пакараціць і пасадзіўшы, прывязаць да кала, а далей дагледаць так сама як і маладзейшые. Гэткім спосабам саджэные дрэўцы вельмі добра прыймаюцца, а што найважней, карэньні іх скора разрастаюцца і ідуць у глыб зямлі, дык тады не баяцца так ні марозаў, ні сушы, ні так яны загніваюць і не вымагаюць пульхнай зямлі, дык і кошт каля іх і заход зусім невялікі.

У Амэрыцы, як паказывае статыстыка, фруктовых дрэў, пасаджэных гэткім спосабам ёсць каля 300 тысячоў і ўсе яны даюць добрые ўраджаі. У Расеі—у Крыму так сама ёсць ужо гэтак сама саджэные сады і мала таго, што добра ідуць яны, але нават менш хварэюць, чым саджэные даўнейшым спосабам, і ня гледзючы на тое, што дрэвы гэтые сідзяць на скалістым грунце, карэньні іх тоўстые, моцные і вельмі добра развіваюцца. У поўночнай Расеі гэткіе пробы так сама добра удаліся.

У нас—на Беларусі занялася гэтай справай вядомая рупная грамадзянская працоўніца пані А. Бэрнатовіч, і як паказалі

пробы яе у Крываносах каля Пастаў, а пасьля у Устроню, то перэканаліся, што спосаб гэткі вельмі прыдатны для нас. Каля Смаргонь некаторые гаспадары, ешчэ нічога ня ведаючы аб Штрынгфэллё, самі дагадаліся зрабіць гэткіе пробы і цяпер можэм там убачыць пекные дрэўцы Антонавак і Сапежанкі. У Троцкім паведі ёсць некалькі так сама пасаджэных Сапежанак. Разрасліся яны вельмі пекна, а што найважней—родзяць добра, ігрушы чыстые, непашчэпаўшыеся. Мо удасца гэткім способам падтрымаць, выміраючы ўжо гатунак, вельмі смачнай і дарагой ігрушы.

Некаторые вучоные агароднікі гэтаго способу не прызнаюць, але скуткі нам паказываюць зусім што другое, дык варта, дый канешна трэба, каб нашые садаводы вялі ў сябе хоць невялічкіе пробы гэткаго саджэньня, каб перэканацца самім і паказаць, дый навучыць другіх.

**Янук Крыука.**

7/1 1913 г.

*Кучкурышкі.*

---

# Вясковые садкі.

Німа цяпер, бадай, гэткай вёскі, а ў вёсцы такога гаспадара, каторы не парупіўся-б завесьці ў сябе садок. Справа вельмі добрая і вельмі важная. Беда толькі ў тым, што мала дзе можна знайсьці, каб гэты садок заведзены быў практычна і умела. Найчасьцей робіцца так: селянін знайшоў дзе — на полі, ці ў лесі — дзічку, выкапаўшы, садзіць ён яе каля сваей хаты, а калі прыжыве, бярэ ў суседа зразік, не зважаючы на гатунак: абы толькі салодкі, ці чырвоны—і дрэўцэ гатова. Разумеецца, карысьць з гэтага не вялікая: дзічка польная найчасьцей бывае крывая, пакалечэная, тоўставатая, дык ані прышчэп добра не бярэцца, ды уселякіе хваробы ускорасьці нападаюць, і дрэўцэ калі ня згіне зусім, то расьце вельмі слаба, дык і фрукты на ім дрэнные. Купляюць ешчэ селяне ўжо гатовые прышчэпы і на рынку. Якіе там дрэўцы, якіе гатункі — нават таму гаспадару, што прадае—незнаны. Вось гэткім найчасьцей парадкам заводзіць у сябе садок наш селянін—беларус. Ёсьць ешчэ і горшая беда: селянін шкадуе мейсца пад сад. Чаму? Сад ён уважае толькі як сваю выгоду, а таго ня думае, што з гэтаго можно мець ладны даход; але каб яго прыждаць трэба інакш брацца да гэтай справы: 1) не шкадаваць мейсца пад сад; 2) садзіць толькі здаровые прышчэпы; 3) выбіраць толькі добрые гатункі; 4) не жалеючы, абрэзаць лішніе гукі; 5) не даваць маладым дрэўцам цьвісьці і пладзіцца.

Не раз здаралося мне бачыць, што фруктовые дрэвы пасаджэны адно ад другога ня больш як аршыны 4 — 5. Разу-

меецца, калі гэтак пасаджэные дрэвы падрастуць, галіны іх ня толькі будуць даставаць адна другую, але нават пасплетаюцца і тады ўжо хоць як рэж іх — нічога не паможэ. Даходу з гэтаго саду не спадзевацца, бо калі і будзе крыху фруктоў у ім, дык ані добраго смаку, ані узросту ня будзе. Хто хочэ мець пекных і шмат фруктоў, мейсца пад сад ніхай не жалее і садзіць дрэвы ад дрэва ня менш ях аршын 12; тады толькі карэньні будуць мець сабе досыць пажывы ў зямлі, а да галін дрэва будзе доступ сонца, а толькі пры гэткіх варунках можна спадзевацца карысьці с саду. Дык хто мае густа пасаджэны сад, хай не чэкаючы—пакуль дрэвы маладзейшые — разсадзіць яго. Каб-жэ усьцерагчыся большаго упадку пры перасаджываньні, дрэвы старэйшые за 10 год перэсаджываць трэба з зямлёй. Робіцца гэта вось як. Вясной, пакуль ешчэ земля не распусьціла, абкопываецца ў вокал дрэва раўком, адступіўшы ад пня так, каб шмат карэньнеў не паглуміць. Равок трэба капаць так глубока, як ідуць карэньні; як толькі іх мінеш, трэба зямлю с пад нізу падкапаць, каб дабрацца да глаўнаго корня. Адрэзаўшы яго, падважываць усё дрэва каламі, зважаючы, каб зямлю, што паміж карэньнямі трымаецца, не зварушыць. Гэтак падкапанае і падважанае ўжо дрэўцэ трэба пакінуць на колькі дзён у гэтай самай яме, каб свежа зварушэная земля начнымі прымарозкамі скрэпла, а тым часам, калі гэтаго ня зроблена ў восені, прырыхтаваць яму пад дрэўцэ. Яму трэба выкапаць канешна шырэйшую, чым займае само дрэва з зямлёй. Раніцай, калі земля сьцяўшыся добра марозам, дастаць асьцярожна выкапанае дрэўцэ з ямы і палажыўшы на санкі, зацягнуць да прырыхтованай новай ямы. Уставіўшы яго туды, зараз-жэ трэба добра ўмацаваць, прывязываючы пярэвясламі да наўскос убітых моцных калоў. Парожняе мейсцэ—бо яма была шырэйшая—засыпаць усьлед добрай зямлёй. Памятаваць ешчэ трэба, што пакуль дрэва ляжыць ешчэ на санках і да яго прыступна з усіх старон, трэба ўсе карэньчыкі яго, пакалечыные пры адкопываньні—параўняць і выгладзіць войстрым нажом.

Гэткім спосабам перэсаджываў я фруктовые дрэўцы па гадоў 15 маючые і больш, і упадку вельмі мала было; трэба толькі пасьля год — другі, калі такое дрэўцэ зацьвіце, цьвет абарваць, каб не траціло яно сваей сілы на фрукты, а само лепш умацавалося.

Цяцер, што датычэ другога пункту: садзіць толькі здаровые прышчэпы,—гаварыць німа чаго доўга: вядомая рэч, што с хвораго, ці то чэлавека, ці то дрэва—пацехі мала і хто завядзе ў сябе сад с хворых пакалечаных дрэў, той толькі нажыве клопату, а даходу—то пэўна што мець нябудзе.

Пункт трэці: якіе гатункі фруктаў у сябе заводзіць — вельмі важны. Дагэтуль нашые селянскіе садкі заводзіліся толькі для сваей выгоды, ня думаючы аб тым, што гэтые садкі могуць даць добрые даходы; трэба толькі падбіраць ходкіе на продаж гатункі. Наша беларуская зямліца вельмі прыгодна

дзеля самаго важнейшаго і патрэбнаго па ўсіх цукерачных фабрыках гатунку яблык — антонаўкі. Вось на гэты гатунак трэба і налягчы. Толькі, разумеецца, калі вы будзеце мець яго некалькі толькі дзесяткоў пудоў, то ні водзін важнейшы купец з вамі і гаварыць не захочэ і тавар свой прыйдзецца збыць праз рукі перакупшчыка за што яго ласка. Зусім іншая справа, калі-б уся вёска загадавала ў сябе аднаковы гатунак фруктаў. Бяручы сярэднюю цыфру вясковых гаспадароў — хат 50, і калі кожны з ніх будзе мець хаця-б па дрэвак 5—10, с каторых, ня лічучы многа, можна прыждаць прыплоду пудоў 50, то гэткая вёска будзе ўжо мець тавару для продажы каля поўтрацi тысячы пудоў т. е. на выгонаў чатыры; тады можна патаргавацца і з добрым купцом. А за 50 пудоў фруктоў можна мець 50 рублёў; гэта ўжо такі даход, каторым можна абагнаць усе свае пададкі і наддаткі. З другіх гатункоў фруктаў — салодкіх, бадай ці не найлепшае будзе пэпінка—вельмі ураджайная, трывалае ў лежні, і грошы плацяць за іх добрые. С паміж навейшых салодкіх яблык, добры гатунак Мантвілаўкі — зграбнае, прыгожае, трывалае і смакам добрае яблыко.

Ігрушы — хоць і плацяць за ніх на гарнцы даражэй за яблыкі, але на гуртоўную продаж ідуць слаба. Найдаражэйшымі паміж ніх Слуцкая Бэра і Сапежанка, але выраджаюцца ўжо яны, і дагадавацца з іх пекных фруктоў—цяжкавата. Дык калі траціць мейсцэ, час і працу, то заводзіць трэба толькі пэўнуе гатункі, і узгадовываць іх або ў сябе дома, або куплять у пэўных, знаных мейсцах.

Пасадзіўшы дрэўцэ, трэба яму, разумеецца, даць і догляд: не радзей, як праз гады тры, абкладаць гноям, і то не на самы пень, як гэта часта робіцца ў нас, а ў вокал дрэва, як ідуць яго галіны. Трэба пільнаваць і самога узросту дрэва. Сукі, каторые растуць у сярэдзіну дрэва, або ідуць адзін другому накрыж і труцца, не жалеючы, вырэзаць. Ураджай фруктоў ад гэтаго ніколі ня зьменшыцца, а толькі самые фрукты будуць большые і лепшые.

Кожны гаспадар, засадзіўшы ў сябе сад, хочэ як найхутчэй прыждаць з яго фруктоў і абы толькі зацьвілі маладые дрэўцы—ён ужо цешыцца і пазваляе ім пладзіцца. Гэта вельмі дрэнна рэч. Маладым прышчэпам ніколі ня трэба даваць нават зацьвісьці, а нято што каб фрукты ешчэ яны раджалі, бо ад гэтаго вельмі слабее само дрэва, а карысьць з гарнца яблыкаў невялікая. Калі-ж ўжо бярэ такая нецярплівасьць, то пакіньце адну—дзьве кветкі на мацнейшым суку дрэва, абы было на спробу яблычка, а ўвесь другі цьвет—абарвіце.

Урэшце—на астатак скажу вам, што калі ўзяцца старанна, разумна і ўмела каля саду, то гэта можэ быць ня меншай, калі ня большай падмогай усей селянскай гаспадаркі.

**Ван—сок.**

# Лаза.

Кожнаму з нас вядома добра колькі зямлі у нашай Беларусі дарма прападае пад балотамі і пескамі. І ня толькі што з гэткіх кавалкаў немаем ніякай карысьці, але нават найчасьцей бываюць ешчэ і немалые шкоды.

На балотах, напрыклад, бадай заўсёды растуць шкодные для жывёлы травы, і толькі здаўна на мейсцы гадаваная скаціна з бядой вялікай чуць выжывае пры гэткіх пашах і корме; наводная-ж-с сухіх мейсцоў — напэўна будзе хварэць, гібець і ад упадку ня ўсьцеражэшся.

Пяскі нашые так сама робяць аграмадные шкоды. Апошнімі часамі лясы ў нас таяць, як сьнег на вясну, а вятры што раз болей і вальгатней бушуюць; ось гэтые вятры і зрываюць пяскі, падыймаюць іх у гару і, віхрам круцячы, заганяюць што раз болей і болей добрые, гнойные, паханые землі. А мы што робім? Нічога! Год у год, крок за крокам адступаем у зад перад гэтым страшэнным ворагам і гэткім парадкам што раз больш абрэзаем свае і без таго куртатые кавалкі зямлі.

Ніхто бадай ня будзе спірацца, што земля цяпер ідзэ ў цану, дык марнаваць яе і грэх і сьмех. Кожны шматочак яе трэба выкарыстаць. Так сама і балота, і пясок можна выкарыстаць. Па другіх старонках, дзе людзі выперадзілі нас сваей гаспадаркай на якую сотку гадоў, гэткі нездатны, як нам здаецца, пешчаны, або балотны грунт, перэрабілі ўжо ня толькі на ўраджайные палеткі, але пазаводзілі там нават сады і агароды. Нам, разумеецца, аб гэтым ешчэ і думаць німа чаго, бо на гэта трэба як раз таго, чаго у нас нехват: практыкі і накладу. Але, пакуль прыжджом мы лепшых варункоў жыцьця, складаць рукі і спаць у шапку нельга: трэба рабіць што наша змога. Ось тут і даем раду, як пры невялікім заходзе і малым накладзе можна выкарыстаць балота, або пясок.

З гэткіх грунтоў можна мець вялікі даход, калі завядзем на іх лазу. Лазу трэба садзіць ня прастую, а заводную, катора так сама добра расьце ў нашай старонцы, як і за граніцай, або ў Польшчы. Там даўно ўжо малаздатные кавалкі зямлі засаджываюць лазой і маюць з яе вялізарные даходы, бо чаго толькі ня робяць з яе! Камлі лазы гэткай здатны на апал, пасудзіну, дугі, абручы, хадакі, чоўны і т. п. З галін яе выплетаюць шмат розных вельмі пекных вырабоў,—пачынаючы ад простых кошыкоў, каторых гібель разыходзіцца, выплетаюць ешчэ і ўселякіе большые і меншые карзіны, каторые ідуць ужо на розные ўпакоўкі ў дарогу. Апрача таго плятуць з галін гэтай лазы сталы, крэслы, канапы, зграбные кошычкі да вазонаў, этажэркі і шмат, шмат уселякай дробязі, за каторые баруць добрые грошы. Кара гэтай лазы так сама шмат да чаго прыдатна. Не кажучы ўжо а лапцях, згодна яна да прывязываньня фруктовых дрэвак, плятуць з яе пекные дыванчыкі, апрача таго ўжы-

ваюць яе і ў гарбарні; подсьціл у хлявох з гэтай кары так сама вельмі добры і карыстны.

Лісточкі і кончыкі маладых галінак (адналетак) ласа ядуць авечкі і козы.

Лаза гэта вельмі важна і для пчол, бо зацьвітае яна тады, калі пчолы не маюць дзе ешчэ чым іншым пажывіцца.

Словам, як бачыце самі, лаза гэта здатна да ўсяго і нічога ў ёй дарма не прападае, а трэба ведаць ешчэ, што купцоў на яе заўсёды лёгка знайсьці.

Цяпер скажэм, як узяцца за работу і як прырыхтаваць грунт пад лазу.

Калі лазу маніцеся садзіць на балоце, то перш наперш балота гэтае трэба асушыць, бо ў вадзе, разумеецца, нічога добра расьці ня можэ. Нашые балоты найчасьцей бываюць каля рэчак; дык тут трэба, добра зважаючы на спады, пакапаць равочкі так, каб ваду з балота сьцягівала ў рэчку. Пасьля, абсушаны грунт, трэба акуратна загараць і калі добра ўжо падапрэе— выбаранаваць гладка, дачыста, каб зьніштожыць усю дзіч, усе травы, якіе заўсёды растуць на балотах. Гэта і будзе найважнейшая работа, якую трэба зрабіць на балотным грунце, каб пасьля можна было ўжо брацца за пасадку самой лазы.

На грунце пешчаным заходу куды менш. Трэба толькі глыбока загараць яго і услед жэ, каб ня перасыхала земля, забаранаваць. Вось і ўсё.

Цяпер справа ў тым: як і калі садзіць гэтую лазу. Садзіць яе можна с самай вясны — як толькі адыйшла земля і ў познай восені, калі лісты з дрэў ўжо асыпаліся.

Для пасадкі н йлепш маладые 1-годные галінкі, выбіраючы с паміж іх мацнейшые, таўсьцейшые, каб, утыкаючы іх у зямлю, яны ня гнуліся. Так сама трэба зважаць, каб садзіць галінкі толькі такіе, вочкі каторых ешчэ не набухлі, бо іначэй шмат будзе ўпадку. Самые галінкі трэба рэзаць на кавалкі па вяршкоў 8 — 12 кожны. Кавалкі гэтые садзіць адзін ад другога на 6 вершкоў радочкамі, а рад ад раду павінны мець 12 вяршкоў. Каб спраўней і раўней ійшло саджэньне найлепш зрабіць акуратнай меры значнік, калі ж яго німа, то гэту работу можна зрабіць і шнурам. Прывязаўшы да канцоў шнура завостраные палкі і нацягнуўшы яго роўна і туга, затыкаюць палкі ў зямлю. Дзе ляжыць шнур, там і будзе першы рад, дык па шнуры трэба і садзіць лазу кавалак ад кавалка на 6 вяршкоў. Скончыўшы першы рад, шнур зьнімаецца і нацягіваецца так сама на другі рад, адступаючы ад першаго на вяршкоў ня меньш 8-і і ня болей 12-ці і т. д. ажно ў канец назначанаго пад лазу вучастка.

Садзючы, трэба ешчэ зьвертаць вялікую ўвагу:

1) Пучкі з галінкамі праз увесь час, пакуль усіх не разсадзім, трэба накрываць ці мокрым мохам, ці дзёрнам, або хоць і саломай, каб іх не праймаў вецер і не пражыло сонцэ.

2) Садзючы, трэба высьцерагацца задзіраць кару.

3) Трэба добра пільнавацца, каб галінкі ўтыкаць у зямлю вочкамі ў гару, бо інакш яны ніколі не пражывуць.

4) Садзіць трэба проста, а не наўскос.

5) Можна ўтыкаць галінкі роўна зямлі, а калі і пакідаць на вярху то ня больш як 1 — 2 вочкі.

6) Радочкі найлепш калі будуць ісьці с полуднёва-усходней стараны на паўночна-заходн.

Даглёд за пасаджэнай лазой шмат часу ня займае і патрэбны ён найбольш толькі першые 2 — 3 годы. Пільнавацца толькі трэба, каб не узсядала на саджэнкі трава і паміж радочкамі, падрушываючы зямлю, абсыпаць ёй лазовые пянёчкі, каб крыху прыкрываць іх зямлёй.

Работу гэту трэба толькі першые гады рабіць вясной і ў восень, а пасьля досыць будзе—толькі ў восень. Калі каторые саджэнкі павысыхаюць, трэба на іх мейсцы падасаджываць, але ўжо старэйшымі 2—3 гадовымі галінкамі лазы, і садзіць глыбей—на вяршкоў 14—15.

Зрэзаць лазу на тавар трэба ў восень, калі ўжо лісты ападуць т. е. калі затрымаюцца сокі. Рэзаць трэба вострым нажом па аднэй галінцы і то зусім нізка—амаль не каля самай зямлі. Галінкі падбіраць трэба па іх даўжыні: карацейшые—да карацейшых, даўжэйшые—да даўжэйшых і павязаць толькі ня вельмі туга ў пучочкі. Пучкі гэтые трэба уставіць у цёплы склеп на вільготны пясок і час ад часу паліваць. Праз тыднеў 4—6 кара пачне адставать. Хто не мае такога склепу, пучочкі трэба дахаваць пад вясну, а ў сакавіку (марцы) месяцы устаўляць іх канцамі ў ваду. У красавіку, або маі, калі сокі ўжо пойдуць, кара найлепш адстане.

Голые лазовые галінкі трэба сушыць на сонцы, стаўляючы іх каля сьцяны, або жэрдак, час-ад-часу паварачываючы. Высьцерегацца трэба канешна, каб не класьці іх на зямлю, або ў кучы, бо паб'е іх у плямы.

Трэба ешчэ ведаць, што як кожнае дрэва, ці куст, так сама і гэта лаза мае сваіх ворагоў, каторые могуць рабіць ей не малые шкоды і трэба ад гэтаго бараніцца. Найчасьцей бываюць нарасьці на карэ; ў гэткім прыпадку, як толькі асыпяцца лісты — трэба іх вырэзаць і паліць. Бывае, што на лістох паказываюцца чырвоные барадаўкі, — трэба і іх зьбіраць і так сама паліць. Так сама трэба паліць і лісточкі, на каторых пакажэцца павуціна. Бывае ешчэ, што на лазу нападае імшыца (тля). Каб абараніцца ад гэтаго трэба купіць у аптэчным складзе шэрага мыла (1 ф. на вядро вады) распусьціць у вадзе і ў гэтай баўтусе, нагінаючы, паласкаць заражэные галінкі.

Ш—кі.

# Хто хочэ мець надта раннюю бульбу

для сябе, ці на збыт, бо за такую, асабліва па гарадох, плацяць добрые грошы, хай зробе вось як.

У сакавіку, а найпазьней у пачатку красавіка набраць у начоўкі, ці карыта зямлі з агароду і паставіць у хаце на печы, каб земля добра абагрэлася. Прыгатаваць і бульбу: выбраць кошык серэднякоў пасьпешкі чыстай, здаровай і так сама пасыпаць дзе ў цяплейшым куточку, толькі, разумеецца не на печцы, каб добра завяла, ды ажно храсточкі стануць паказывацца. Таты бульбу пасадзіць у прыгатаваную зямлю. Садзіць можна густа: вяршкі два адну ад другой і паставіць каля вакна на чым колечы высокім, каб сьветла было як найбольш. Найлепш ставіць перад такім вакном, дзе найбольш сьвеціць сонцэ. Бульба ускорасьці абойдзе і пачне расьці. Цыбукі яе стануць высокіе, тонкіе, бледные, з маленечкімі лісточкамі і ўсе будуць гнуцца да вакна—да сонца. Тады начыньне з бульбай трэба паставіць другім бокам да вакна, дык і бульбянік адагнецца. І так час ад часу яго перэстаўляць то адным, то другім бокам. У красавіку, калі на дварэ зусім цёпла, выносіць сажэнцы на двор на ўвесь дзень, каб прызвычаіць іх да воздуху, а нанач толькі ўносіць у хату. Як толькі страх большых марозаў міне, бульбу высадзіць на грады, ці так на які кавалачак зямлі бліжэй хаты. Выймаць бульбу с пасудзіны трэба асьцярожна: сперша па неколькі разам з зямлёй, а тады памаленьку, разбіраючы поплёўшыеся карэнчыкі, аддзеляць па асобку; словам — старацца, каб як найменш рваліся карэнчыкі яе. Пасадзіўшы зрабіць у вокал кожнай бульбіны копчык невялікі. Цяпер усяго страху, каб не памерзла. Дзеля гэтаго, заўчасу —бо ешчэ пакуль сьнег ляжыць і часу хватае, трэба прыгатаваць маленькіе саламяные кошычкі. Рабіць іх найлепш с кулявой саломы, формы, бытцам маленькі буч, што на рыбу стаўляюць, толькі, разумеецца, ў сярэдзіне хай будзе пуста, не так як у бучы перэплетаць. Вось гэткімі кошычкамі і накрываюць кожную бульбіну засобка нанач. Прымацаваць кошык да зямлі, каб вецер яго не перакуліў, можна двума малымі сучкамі. Работа гэткіх кошычкаў зусім пусьцяшная, дый будуць яны служыць праз колькі год.

Пасаджэная бульба толькі праз першые дні выгледае бытцам прывяўшы, нягеглая, бледная; але у скорасьці цыбукі яе пачынаюць цямнець, таўсьцець, лісточкі разрастаюцца скора і не агледзішся, як зробіцца вялізарны куст, ды зара і на цьвет барэцца. Што з ёй далей рабіць—ужо кожная гаспадыня патрафіць. Але, хочучы мець вялікі ураджай, рабіце ешчэ гэтак: як куст падымаецца ў гару,—разагніце цыбукі і абсыпце зямлёй. Куст ешчэ вышэй падыймецца, а вы ізноў абсыпце. Гэтак зробіцца ладны копчык і паўнютэнькі — як насыпана — бульбы.

На продаж ня трэба чэкаць пакуль уся пад кустам дарасьце, а па крысе яе асьцярожна падкопываць. абіраць буй-

нейшую, а дробную ізноў засыпаць, каб даходзіла. У канцы мая, а найпазьней у першых числах чэрвеня трэба бульбу выбраць усю, бо да гэтай пары яна толькі найдаражэйшая (1 фунт — кап. 10), а на яе мейсцы пасадзіць якое колечыварыво.

Заходу, праўда, крыху ё, дый той зусім не вялікі, а некольki рубельчыкоў нідзе не валяецца.

**Падмястовік.**

---

# Выстаука насеньня у Вільне.

Віленскае і Ковенскае таварыства сельскай гаспадаркі робяць 14, 15, 16, 17 і 18 лютаго выстаўку. Выстаўка гэта вельмі патрэбна, бо у Віленшчыне саўсім мала такіх маёнткоў, гдзе бы можна было купіць лепшае насеньне. Віленшчына выпісываець найбольш насеньня з Высоко-Літоўска і ад Швэдаў. Можэ ёсць гдзе насеньне, але аб нім мала хто ведаець. Выстаўка нам пакажэць, што і гдзе ёсць добраго.

Вясковые гаспадарскіе суполкі на выстаўцы за мейсца ня плоцяць.

Аб выстаўцы усе вядомасці можна дастаць у сэкрэтара Віленскаго Таварыства сельскай гаспадаркі, Завальная 9.

**А. У.**

---

# Катар жывата і кішак.

Катар жывата і кішак бывае ад кармленьня скаціны гнілым кормам, гнілымі буракамі, бульбай, морквай і іншымі землеплодамі; — ад кармленьня саладовым зерням і вотрубамі, ад прастуды, гарачыні, ад гарачага, ці дужа сцюдзёнага пойла і ў канцы ад доўгай і цяжкай працы.

Хворы конь, ці саўсім ня есьць, ці есьць мала, зевае, язык у яго белы, калу аддае то мала і ён сухі, бліскучы, то пачынае гнаць, у жываце бурчыць. Хворы вол, ці карова, гэтак сама ня есць і найчасьцей ляжыць, падвярнуўшы ногі пад жывот; у році заўсёды многа сьліны, а жвачкі ня жве; у жываце як бытцым што пераліваецца, затрыманьне чарадуецца з ляксай (паносам), адрыгаецца газамі, каровы даюць у два разы меней малака. Хвароба трывае дзён 7 — 8, калі лячыць скаціну адразу; задаўнены катар жывата і кішак можэ цягнуцца доўга, а хворая скаціна худзее і робіцца ня згоднай да працы.

Хворую скаціну трэба паставіць у сухі, цёплы хлеў, і пастарацца ачысьціць ей жывот, а дзеля гэтаго трэба зрабіць вось як: 1) *Для каня.* Узяць паўтары кварты вады, усыпаць туды якую жмэню ільнянага семя, зварыць яго, перэцадзіць

у бутэльку юшку, усыпаць у яе які фунт глаўбэрскай солі і уліць каню у горла. *Для вала, ці для каровы.* Узяць паўтары кварты вады, усыпяць у яе са жменю ільнянага семя, зварыць яго, юшку пэрэцадзіць у бутэльку і усыпаць туды якіе 2 фунты гляўбэрскай солі і якіе 3 лоты альвасу і адразу уліць карові, ці валу у горла. Апрача гэтага, хворай скаціне, трэба даваць часта, але па ня многу добры корм: сухое мурожнае сена, цёплае пойла з мукі, ці з вотрубы. Пры ляксах у каня, ці у кароў, трэба узяць кварту вады, усыпаць у яе якую жмэню ільнянага семя, зварыць, перэцадзіць юшку у бутэльку, усыпаць туды якіе 2 лоты галуну і 2 лоты дробна патоўчэнай дубовай кары і уліць усё у горла жывёлі.

Студэнт-вэтэрынар **К. Сініцкі.**



Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу.** Друкарня „Зніч“ Вільня.

# З развіцьця млечарства.

Імп. Кауказкае Товарыства Сельскай гаспадаркі у Тыфлісе зрабило у 1909 году агульную пробу **колькі найлепшых цяперш ніх цэнтрафуг** пад загадам вядомага аграноима Калантора (каторы напісау колькі кніг аб млечарстве) і другіх некаторых спэціалістоу. На гэтую пробу паставілі невядомы да гэтага часу сэпаратар швэцкі „ДІАБОЛО“, каторы зваевау усіх сваіх канкурэнтоу. З гэтаго часу пачалося нябывалае пашырэньне і прадажа цэнтрафугі „ДІАБОЛО“, каторая надта **моцна зроблена і разам простага устройства, надта танна, ды пры гэтым выбіраець тлустасць да чыста з малака.**

На бацькаушчыне у Швэціі аб пабедзе „ДІАБОЛА“ сведчаць такіе числы іх прадажы:

| | | |
|---|---|---|
| у 1909 г. — | 1,500 | штук |
| у 1910 г. — | 3,000 | „ |
| у 1911 г. — | 5,000 | „ |
| у 1912 г. — | 7,000 | „ |

Тое самое робіцца і па другіх краёх Эуропы. Так, у Расеі у 1909 году было прадана 300 штук, а у 1912 году ужо аж 12,000 штук. Гэтые личбы самі за сябе гаворачь. І у гэтай пабедзе цэнтрафугі „ДІЯБОЛО“ німа ніякога дзіва, а тлумачыцца жэ гэта простым спосабам: **Цэнтрафуга „ДІАБОЛО“ пры сваей найтаньшай цане, робіць найлепш і найтаней сваю работу.**